ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Падрыхтавана каля 4 тысяч назіральнікаў

***Каля 4 тысяч незалежных назіральнікаў падрыхтаваў Цэнтральны каардынацыйны савет (ЦКС) па назіранні за выбарамі. Пра гэта паведаміў на пасяджэнні ЦКС ягоны старшыня Мечыслаў Грыб.***

Пераважная большасць патэнцыяльных назіральнікаў ужо прайшлі навучанне на спецыяльных семінарах. Толькі ў Мінскай вобласці, напрыклад, іх было арганізавана 17. Зараз да вучобы падключаюцца новыя людзі, якія пазней выказалі жаданне ўзяць удзел у назіранні.

Удзельнікі пасяджэння акрэслілі і найбольш тыповыя парушэнні ў працы выбарчых камісій. Гэта, у прыватнасці, адсутнасць роўнага стаўлення шэрагу выбаркамаў да кандыдатаў у дэпутаты. Вядомыя факты, калі насуперак заканадаўству кіраўнікі акруговых камісій працавалі ў цесным кантакце з выканаўчымі органамі.

## "Марш Свободы — 2000"

***От 10 до 15 тысяч человек приняли участие в шествии оппозиции "Марш свободы - 2000", которое прошло в Минске 1 октября.***

Колонна демонстрантов беспрепятственно прошла от Национальной академии наук Беларуси по улице Сурганова до парка Дружбы народов (рядом с площадью Бангалор), где состоялся короткий митинг.

Единственным инцидентом во время демонстрации стало задержание сотрудниками милиции нескольких лошадей, на которых представители одного из минских рыцарских клубов собирались участвовать в демонстрации. Кроме того, милиция задержала на короткое время перед началом шествия два микроавтобуса с транспарантами и флагами.

На митинге выступили председатели Белорусской социал-демократической Грамады Станислав Шушкевич, Объединенной гражданской партии Анатолий Лебедько, Партии БНФ Винцук Вячорка, а также депутаты Верховного Совета Беларуси 13-го созыва Валерий Щукин и Людмила Грязнова. Ораторы обратились к собравшимся с призывом бойкотировать выборы в Палату представителей Национального собрания Беларуси 15 октября.

Заместитель председателя Партии БНФ Юрий Ходыко сообщил, что следующая акция оппозиции в Минске пройдет 14 октября, накануне выборов в Палату представителей. Заявка на ее проведение подана в Мингорисполком 29 сентября. Сбор участников акции объявлен в 15 часов возле НАНБ, откуда запланировано шествие до площади Независимости.

## Пенсии увеличатся с 1 ноября

***С 1 ноября в Беларуси будет увеличен размер пенсий. Об этом сообщила министр социальной защиты Ольга Даргель накануне Дня пожилых людей, который ежегодно отмечается в Беларуси 1 октября.***

Она сообщила, что с 1 ноября будет пересмотрен бюджет прожиточного минимума и увеличены все виды пенсий. Перерасчет пенсии, отметила министр, производится постоянно, поскольку пенсия является главным источником дохода пенсионеров. Ольга Даргель напомнила, что с 1 января этого года изменился порядок исчисления минимальных трудовых пенсий, 25 процентов которых теперь составляет величина прожиточного минимума.

## На зімовы час

***У тры гадзіны ночы ў нядзелю, 29 кастрычніка, час у Беларусі пераводзіцца на адну гадзіну назад.***

З гэтага моманту мы пачнём жыць па "зімоваму" часу. Такую інфармацыю далі ў лабараторыі часу Дзяржстандарта.

## Запасаў паліва няма

***Як адзначалася на пасяджэнні Брэсцкага аблвыканкама, падрыхтоўка да зімы магла быць лепшай. Паводле апошніх звестак, запасы паліўнага мазуту складаюць 16 тысяч тон (64 працэнты ад нормы), каменнага вугалю — 14,5 тысячы тон (76 працэнтаў). Нарыхтавана ўсяго 15 тысяч кубаметраў дроў.***

У сувязі з гэтым на пасяджэнні падкрэслівалася, што ў вобласці слаба выкарыстоўваюцца магчымасці прымянення мясцовага паліва.

Галоўная прычына дрэннай падрыхтоўкі да зімы — адсутнасць грошай. Паводле апошніх звестак, дэбіторская запазычанасць юрыдычных асоб за карыстанне камунальнымі паслугамі склала 2,4 мільярда рублёў, прычым галоўныя даўжнікі — бюджэтная сфера і ваенныя.

*(БелаПАН).*

ЗАЦЕПИЛО

## НОЧЬ. УЛИЦА. НИ ФОНАРЯ. АПТЕКА...

***О том, почему город, словно женщина, может быть любимым или нелюбимым, мы уже говорили. Сегодня хотелось бы поговорить о том, в какой степени город может называться и быть... городом.***

А ведь, что ни говорите, а один только статус к чему-то вроде бы должен обязывать. Ведь и населенный пункт Санкт-Петербург, и Минск, и Рим, и Ивацевичи имеют одинаковый статус — все они относятся к категории, обозначенной коротким словом город. В принципе это как будто и звучит гордо; но это только в принципе, на самом деле условная и всем видимая кастовость одних и убожество других только подчеркивают унизительность положения последних.

Точно также уродливую и безобразную "поганку" вы ничем более не оскорбите, как назвавши её красавицей, так же, порой кажется, вы ничем более не оскорбите райцентр Ивацевичи, кроме как обозвавши его городом.

...Ночью — ни фонаря, в темноте бойтесь натknуться на забор или наступить на собаку. Не желающий ровно лежать тротуар так и норовит зацепить вас за каблуки-подошвы. Тускло мерцает бедный ряд коммерческих ларьков. Здесь как будто обозначена жизнь, иногда даже проскрипят тормоза какого-нибудь "опеля", за рулём которого юнец; он особо молодо выглядит на фоне двадцатилетней "тачки". Иногда вспыхнет словесная перепалка и вооруженный... словами молодой человек брезгливо бросит в адрес другого слова, которые он услышал в каком-то бессмысленном боевике: "Я зачитаю твои права в двух метрах под землёй!" Свою безрадостную вахту несут докучливые таксисты, пришвартовав свои наземные "катера" у многопрофильного, но унылого вокзала. А дальше... А дальше — полная темень.

И это... город? Да поставьте вы три-четыре ларька возле сельмага где-нибудь в Доманово, Кушнерах, Оброво или Гутке, а еще два-три автомобиля с надписью "TAXI" — и такой же город вам обеспечен в любой забытой деревне района.

...Оно понятно, есть, конечно, Брест и Витебск, Минск и Гомель. Есть еще порядок ниже: Борисов и Слоним, Барановичи и Орша. А есть еще и Ляховичи, и Зельва, и Жабинка, и Ивацевичи, для которых пора бы определить статус новый... полугород что-ли.

Это когда чуть ли не полгода у вас нет горячей воды, когда давно махнули рукой на освещение улиц. Ведь Минск и Брест сияют, дорогие мои. И грань сегодня стирается не между городом и деревней, а городом и ... городом, если, конечно, можно так назвать тот населенный пункт, в котором мы с вами живём, читатель дорогой.

*Александр МИХАЛЕНКО.*
*г. Ивацевичи.*

ВАША ПІСЬМО

## Пра смятану і яе расфасоўку

***Добры дзень, "Газета для вас"! Падкажыце, калі ласка, адрас магазіна ў Івацэвічах, дзе можна купіць разліўную смятану ці ў невялічкіх шкляначках?***

***Няўжо кіраўніцтва Івацэвіцкага малаказавода рашыла аблегчыць сабе працу, прадаючы часам няякасную прадукцыю ў такіх вялікіх поліэтыленавых пакетах паўкілаграмовай расфасоўкі? Дарэчы, самі прадаўцы магазінаў жадаюць таго, каб смятана была ў меншай расфасоўцы: лепш раскупляецца. Выходзіць, кіраўніцтва малаказавода працуе без уліку попыту спажыўцоў?***

***Жыхары г. Івацэвічы: Н. Адамчук, Н. Чыкіта, Л. Джэжора, С. Дземасюк, Т. Татарчук, Ш. Палейчык, П. Марчанка, З. Такарчук.***

**На пытанне нашых чытачоў адказвае Анатоль ГРУЗДЗЕЎ, дырэктар Івацэвіцкага малаказавода:**

— Разліўную смятану можна купіць у магазіне "Верас" па вуліцы імя В. Клютко. У астатнія магазіны мы дастаўляем смятану тады, калі атрымліваем заяўку раённага спажывецкага таварыства. Разліў смятаны ў пакеты не з'яўляецца для нас самамэтай, больш таго, нам выгадна, калі смятану бяруць для продажу на разліў: менш затрат.

Наш малаказавод робіць расфасоўку смятаны ў пакеты па 0,5 літра не таму, што мы не жадаем ісці насустрач спажыўцу, а таму, што тэхналагічная лінія, якая ўстаноўлена, прадугледжвае толькі такі выпуск.

КОНКУРС

### "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*ВАЛЕНТИНА, по гороскопу — Стрелец. Свободное время стараюсь проводить в больших городах, особенно обожаю Минск. Люблю самую разную музыку. Любимая певица — Инна Афанасьева. Нравятся молодые парни с высоким уровнем культуры, с хорошим чувством юмора, спортивного телосложения.*

ЧП

## Нежелание соблюдать правила ценою в жизнь

**БАРАНОВИЧИ.** Волна ДТП прокатилась по городу и району самым серьезным образом. За прошедшие недели на дорогах города и района совершено 6 тяжких происшествий, в 3-х из них погибли люди.

Насколько красив перекресток возле ТЭЦ, настолько и опасен. Водители там не замечают пешеходов и о снижении скорости даже не думают. Сотрудников ГАИ там не видно.

20 сентября девушка переходила там улицу: в положенном месте, на зеленый сигнал светофора. Тем не менее, ее сбили. Водитель с места происшествия скрылся, хотя девушке нужна была медицинская помощь.

*Галина СТРОЦКАЯ.*

РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

# ШТО ПАЧЫМ?

*Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 4.10.2000 г. (у руб. за адзін кілаграм):*

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны |
|---|---|---|---|---|
| Свініна | 1800—2700 | 1800—3000 | 2500 | 1700—2700 |
| Сала салёнае | 1800 | 1800 | 2200 | 2300 |
| Алей (1 л) | 680—950 | 650—900 | 700—850 | 660—980 |
| Яйкі | 600 | 600 | 650 | 500 |
| Малако (3 л) | 500 | 500 | 450—500 | 450 |
| Тварог | 500 | 550 | 600—650 | 500 |
| Масла сметанк. | 1800 | 1900 | 1800 | 1800 |
| Бульба | 120 | 90—120 | 80—100 | 80 |
| Цыбуля | 190—300 | 250—300 | 150—200 | 300 |
| Морква | 100—200 | 200 | 250 | 200 |
| Капуста | 90—120 | 120 | 120—150 | 150 |
| Грушы | 200—250 | 150—200 | 150 | 150 |
| Кавун | 180—200 | 180 | 200 | 180 |
| Персікі | 1300 | 1100 | 1400 | 1300 |
| Агуркі | 180 | 150—180 | — | 150 |
| Яблыкі | 100—150 | 100—750 | 100—150 | 100 |
| Памідоры | 400—600 | 350—550 | 450—500 | 400—450 |
| Вінаград | 600—1500 | 1500 | 1200 | 1500 |
| Перац салод. | 500 | 400—600 | 450 | 450 |
| Часнок | 650—800 | 1000 | 1000 | 800 |
| Лімоны | 1000—1200 | 900—1200 | 1200 | 1200 |
| Апельсіны | 700—800 | 750 | 790 | 720 |
| Бананы | 700—800 | 750 | 700 | 700—800 |
| Дыні | 600 | 600 | 500 | 600 |
| Грэчка | 660—680 | 650 | 660 | 700 |
| Макар. вырабы | 320—600 | 300—500 | 450—550 | 450 |
| Рыс | 430—450 | 480 | 450 | 460—480 |
| Манныя крупы | 400 | 400 | 400 | 400 |
| Проса | 370 | 360 | 460 | 400 |
| Цукар | 480 | 480 | 500 | 500 |
| Мёд | 3.400 | 3.500 | 3.600 | 3.500 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1045 | 1100 | 1040 | 1060 | 1040 | 1100 | 1040 | 1100 |
| 1 дойчмарка | 480 | 490 | 440 | 450 | 440 | 460 | 440 | 460 |
| 1 рубель Расіі | 37 | 39 | 36 | 39 | 37 | 39 | 36 | 39 |

# ПОЛИТИКА - ИМЯ ЖЕНСКОЕ

*Какова сегодня роль женщин Западной Европы и США в политической жизни своих стран, как они могут и как воздействуют на окружающую их политическую среду, что это дает обществу и государству – такова тема беседы журналиста Юрия ТОПОРАШЕВА с первым секретарем Консультативно-наблюдательной группы (КНГ) ОБСЕ в Беларуси доктором политологии Беатой Розумилович.*

**— Госпожа Розумилович, у Вас довольно редкая, по нашим представлениям, специальность для женщины - политология. Более того, Вы имеете ученую степень доктора наук в этой сложной области общественных отношений. Уверен, нашим читателям, в первую очередь - читательницам, будет интересен Ваш рассказ о том, как участвуют их "демократические сестры" в политической жизни своих стран. Чего они уже достигли и за что продолжают бороться. Как Вы уже, видимо, заметили и у нас наблюдается некоторое пробуждение женской активности после длительной спячки под присмотром жрецов "политического патриархата".**

— Тема эта безмерная. Боюсь, что в нашей короткой беседе невозможно будет охватить все аспекты женского политического движения. В каждой стране есть свои специфические особенности. Хотя страны демократии больше объединяет схожесть, чем различия. В основном я буду говорить о женских движениях в Великобритании и США. Но трудно обойти стороной и государства Скандинавии: именно там, на мой взгляд, женщины достигли наибольших успехов в борьбе за свои политические и, что вполне логично, — экономические права. В связи с этим, и, кстати, в связи с намечаемыми у вас выборами в парламент, приведу несколько впечатляющих цифр.

В 1998 году в парламенте Швеции женщины-парламентарии составляли 42,7%, в Дании - 37,4%, Финляндии - 36,5%, Норвегии - 36,4%.

**— Действительно, впечатляет... На этом фоне женского парламентского "засилья" просто стыдно называть наши аналогичные данные. Но, думаю, надо. Так вот: в первом белорусском парламенте - в Верховном Совете 12-го созыва — "женская фракция" составляла... 3%. Выборы в следующий, 13-го созыва, увеличили представительство прекрасного пола до... 4,5%. Если дело и дальше пойдет такими же темпами, то не пройдет и сотни лет, как мы догоним, а то и перегоним Швецию.**

— Было бы ошибочным думать, что путь женщин в большую политику на Западе был скорым и легким. В Англии они лишь в 1918 году были наделены правом участия в выборах и вплоть до 2000 года этот период отмечается развитием активности участия женщин в политической жизни, в частности, в выборах. Во многих странах Западной Европы все еще традиционна проблема зависимости, как бы подотчетности женщин своим супругам в том, что касается принятия тех или иных решений. В том числе, разумеется, и политических решений.

Подобная ситуация особенно живуча, как мы говорим, в маргинальных областях: в сельских районах необходимо прилагать значительно больше усилий, чем в городах, для того, чтобы объяснить женщинам, как выражать свою волю, свою точку зрения относительно того, как, на их взгляд, должны быть структурированы государство и общество.

В Англии и Америке существует множество женских организаций, которые могут проводить такую разъяснительную работу. Подчеркну, что в Великобритании подобные организации, в основном, имеют партийную основу. На протяжении последних 20 лет получается так, что первый период политической активности женщин начинается с их деятельности в качестве партийных активистов. Они могут быть, допустим, в партии лейбористов, консервативной или либерально-демократической партии, и начинают с того, что наравне с коллегами мужчинами ходят по домам и разъясняют людям программы своих партий, стараясь привлечь их голоса на будущих выборах.

**— То есть это надо понимать так, что на первых порах таким активистам доверяется ведение главным образом низовой агитационно-пропагандистской работы. А имеются ли, если можно так сказать, "чисто" женские политические партии, как у нас, например, женская партия "Надзея"?**

— Я не могу точно ответить насчет Англии, но в парламенте "чисто" женские партии не представлены - я это точно знаю.

Есть организации женщин-активисток. Это общественные организации, деятельность которых носит откровенно политический характер и они тесно сотрудничают с одной их политических партий.

Возвращаясь к началу нашего разговора, хочу сослаться на скандинавский пример. В Исландии есть Национальная партия женщин. В парламенте этой страны в 1999 году женщины заняли 34,9% мест. Если мы вспомним иные аналогичные данные по парламентам стран Скандинавии, то легко установим взаимосвязь между наличием политических организаций и партий, в которых преобладают женщины, с уровнем их представительства в различных властных структурах. В парламентских - первоочередно. И наоборот: там, где все еще продолжают придерживаться традиционных устоев и форм участия женщин в политической жизни, их представительство в тех же парламентских структурах незначительно. Конечно, это по меркам демократических стран.

**— Госпожа Розумилович, прошу назвать такие отсталые страны. Смотришь, и нашим "патриархам" легче на душе будет.**

— Как это ни парадоксально звучит, но в число этих "отсталых" стран входит... Великобритания, которую никак нельзя заподозрить в отсутствии многовековых демократических традиций. В нынешнем году в английском парламенте женщинами-парламентариями занято лишь 18% мест. И к тому же следует особо отметить, что это самый высокий показатель за всю историю.

Уверенное пятидесятое место по таким показателям занимает моя Родина - Соединенные Штаты Америки. Здесь в нижней палате, в Конгрессе, лишь 13% женщин. Нас обгоняют даже Бурунди и Зимбабве, не говоря уж, скажем, о Мозамбике, где в парламенте заседает 30% женщин.

**— В парламентах, в Верховном Совете бывшего СССР и его республиканских филиалах, как и в Бурунди, тоже заседало достаточное количество женщин, избираемых, а более точно - направляемых туда через систему регулируемых выборов по так называемой "женской квоте". Ну и что! Да ничего. Они лишь исправно голосовали за уже утвержденные в тиши парткабинетов документы.**

— Конечно, те результаты, которые я привела, скажем, по Америке, могут даже напугать. Но здесь надо рассматривать все в комплексе проблем и реальностей. США - не Дания. У большой страны есть свои проблемы. Что касается выборов, то это - проблема, как дойти до каждого избирателя, как "расшевелить", активизировать женщин американской глубинки. И хотя возможности и реалии информационных коммуникаций Америки никак нельзя сравнивать с вашими, трудности личностных контактов с потенциальным избирателем, а это самые продуктивные контакты, везде в чем-то схожи.

Не следует забывать и о том, что более-менее активное включение женщин в политическую жизнь началось где-то после окончания Второй мировой войны. В Западной Европе женщины активно и более организованно стали заниматься политикой только после 50-х годов. То есть, получается, что лишь 2—3 поколения женщин на самом деле участвуют в политической жизни. Поэтому можно смело предполагать, что в последующие годы будет наблюдаться дальнейшая активизация женского политического движения и это приведет к значительному увеличению их представительства в структурах власти и управления. Здесь на каждую Маргарет Тетчер, на одну Хиллари Клинтон или Мадлен Олбрайт приходится 100, а то и 200 женщин, которые постепенно, ступень за ступенью, поднимаются до тех же высот в будущем. И я уверена: многие из них достигнут того, к чему они стремятся.

**— Вот бы такое количественное соотношение и подобную уверенность нашим, едва пробуждающимся, я имею в виду - в политическом смысле, женщинам.**

— Будет это и у вас, и в этом я уверена. Выйдут и они из-под опеки ваших "патриархов". Они вам еще покажут, как надо строить демократическое государство, избегая общенациональных склок и конфликтов.

Прогресс, в том числе и общественный, обладает одним замечательным свойством - он постоянно ускоряется.

Я думаю, что политическая активность женщины самым тесным образом зависит от степени ее экономической независимости. В свою очередь, это напрямую связано с господствующей в той или иной стране государственно-правовой системой. Не следует забывать, что весь XX век прошел под знаком постоянной борьбы женщин, в первую очередь, за свою экономическую свободу и независимость от мужчины-собственника, главного распорядителя общегосударственного и семейного достояния.

Шаг за шагом жены отвоевывали позиции и одерживали свои победы на экономическом фронте. И сегодня в цивилизованном мире женщины не только равнозначные с мужчинами партнеры в сфере образования, культуры, но и в сфере бизнеса, то есть, в экономике. И как прямое следствие этого уравнивания, они все более справедливо делят с мужчинами традиционно принадлежащее им поле деятельности - политику и власть.

**— Позвольте и мне, госпожа Розумилович, несколько продлить эту умозрительную цепочку взаимосвязей и взаимозависимостей. Очевидно, что усиленное проникновение женщин в сферу экономической деятельности, с одной стороны, продиктовано желанием обрести большую личную экономическую независимость, а, с другой, - улучшить благосостояние своей семьи. Активное участие в политике и стремление войти во власть, как мне кажется, проистекает не из желания найти "острые ощущения", чего политическая борьба дает предостаточно. Здесь преследуются более прагматичные цели: используя рычаги власти, через разумные законы и решения создавать все более благоприятные условия для экономической деятельности не только женщин, но и всех. Круг замыкается. Лично меня такой расклад устраивает.**

— Он всех устраивает. И уже наработанная практика участия женщин в отправлении власти показывает, что она, власть, становится, если можно так сказать, мягче, бесконфликтнее, разумнее. Потому что женщины более способные к компромиссам переговорщики. Они не любят "размахивать кулаками", принимать скоропалительные решения, и решения, исполнение которых предполагает какие-либо принудительно-силовые действия. И, наконец, замечено: чем больше женщин в парламенте или иных государственных структурах, тем спокойнее и вежливее их мужская часть. А для принятия мудрых решений необходима именно такая обстановка.

**— Вновь возвращаясь к странам Скандинавии, впрочем, для примера могут послужить и некоторые другие страны Европы, хочу напомнить в связи со сказанным Вами, что женщины-президенты, премьер-министры и даже - министры обороны, давно уже не диковинка. И гложет меня настойчивая мысль-вопрос: а не потому ли страны эти процветают, не оттого ли нет у них желания ссориться со своими соседями, упрекать их во "вмешательстве" в свои внутренние дела, обвинять в применении каких-то "двойных стандартов"? Может, "виной" всему этому те самые активные женщины, засевшие в этих благополучных странах на Олимпе власти?**

— Дело, конечно же, не только в том, что в упомянутых странах мудро руководят государством и обществом женщины-правительницы. Можно привести множество примеров, где не менее, а то и более успешно правят мужчины на благо своих народов. Дело здесь, скорее, в том, что мы теперь вместе и по-настоящему равноправно начали трудиться на достижение общего для женщин и мужчин результата: сделать нашу жизнь более обеспеченной, спокойной и долгой. И будем соперничать, конкурировать во всех сферах человеческой деятельности. Политика и экономика, как мне кажется, наиболее подходящее поприще для такого соревнования. И пусть, как говорят в спорте, победит достойный.

**— Благодарю Вас, госпожа Розумилович, за откровенную и содержательную беседу. Надеюсь, Вы еще услышите о политических и экономических достижениях наших женщин. Уж чего-чего, а упорства и гибкого, прагматичного ума им не занимать.**

ВАША ПІСЬМО

# Гэта заробак ці здзек?

Мой сын закончыў Мінскі тэхнікум мікрарадыёэлектронікі і ўладкаваўся працаваць на Івацэвіцкі прыборабудаўнічы завод, які, дарэчы, і накіроўваў яго на вучобу.

Работу, праўда, далі не па адукацыі, але ён штодзённа па працоўных днях хадзіў на працу, хоць сам казаў, што, бывае, працаваў палову дня ці палову змены. Сёння ж ні для каго не з'яўляецца сакрэтам тое, што гэтае прадпрыемства перажывае не лепшыя часы.

Кожны дзень мы, бацькі, давалі яму па 300-500 рублёў на абед. Такім чынам, на тое, каб сын мог днём падсілкавацца, пайшло 10-12 тысяч рублёў.

Таму можаце ўявіць, як мы былі шакіраваны, калі сын паказаў нам разліковую паперку, дзе было пазначана,што заробак яго за месяц складае каля... 4 тысяч рублёў.

Я вось думаю, можа ўзяць гэтыя грошы — і адаслаць генеральнаму дырэктару завода ў Барысаў, падпісаўшы: "На цыгарэты. Ад спецыяліста, які цэлы месяц хадзіў на працу".

*Анатоль КАСПЯРОВІЧ,*
*ваенны пенсіянер.*
*г. Івацэвічы.*

# Спасибо!

В 1992 г. в д. Бытень приехала молодой врач-терапевт Дрозд Елена Ивановна. В больнице в то время было 50 стационарных коек, а, как обычно, всегда поступало больше больных.

Елену Ивановну назначили зав. отделением. Она вела стационарную работу и приём больных в поликлинике одна. Нагрузка была очень большая, но, несмотря на это, она находила выдержку, терпение, со всеми могла хорошо поговорить, дать совет, помочь, чем только могла.

В ночное время к тяжёлым больным её часто вызывали, а в Бытеньской больнице всегда очень много тяжёлых больных. Хотя осталось сейчас 35 коек в больнице, но обычно лежат 40 и больше больных.

С 1999 года Елена Ивановна стала главным врачом Бытенской больницы. Ей теперь надо решать и хозяйственные вопросы, и лечебные, и вести приём больных в поликлинике. Нам думается, что в наше время есть очень мало таких медицинских работников, которые всю душу вкладывают в то, чтобы помочь больным людям любого возраста.

Мы, жители д. Бытень, хотим поблагодарить нашу милую Елену Ивановну, пожелать ей крепкого здоровья, успехов в дальнейшей работе и счастья в семейной жизни.

*КУЗЬМИЧ В.П.,*
*ГРИНЧИК Л.Л.,*
*ШКЛЯРИК В.В.,*
*ГРИНЧИК Е.И.,*
*ЛУКАШИК Н.Я.,*
*ЛЕВЧУК В.Н.,*
*ЮНЧИК Т.М.,*
*МАКАРЕВИЧ В.В.*
*и многие другие.*

